# МОЙ ГОЛАС ЗА РЭСПУБЛІКАНЦАЎ

Адданьне выбарнага голасу за таго ці іншага кандыдата — справа прыватная. Але абгрунтаваньне прычынаў, дзеля якіх выбар быў зроблены, мае грамадзкае значаньне, дый наагул публічнае выказваньне паглядаў перад выбарамі — зьява нармальная й патрэбная. А таму я й выказваю свой пагляд.

Мой сёлетні выбар рэспубліканскіх кандыдатаў абумоўлены наступнымі меркаваньнямі:

Відавочна, што краіна пасьля даўгое вайны, нутраных закалотаў, эканамічнага спаду й застою пачынае паступова выходзіць на здаровы, упэўнены шлях, як эканамічны, гэтак і палітычны. І гэта — вынік палітыкі Рэспубліканскае партыі й ураду.

Зьмена філязофскіх паглядаў Вярхоўнага Суду Задзіночаных Штатаў і пасьлядоўнае правядзеньне адпаведных законаў у кансэрватыўным духу — зарука далейшага нутраного аздараўленьня. І, бязумоўна, у гэтым заслуга рэспубліканцаў.

Асаблівае ўвагі заслугоўвае факт, што кандыдаты-рэспубліканцы на найвышэйшыя становішчы ня робяць нярэальных абяцаньняў, а іхная праграма базуецца на рэальных магчымасьцях, неабходнай эканоміі, ды паступовым звужэньні й кантролі бюракратычнага дзяржаўнага апарату.

Праграма вонкавае палітыкі Рэспубліканскае партыі базуецца на патрэбах цэлае краіны, прадугледжваючы пры гэтым ваеннае ўзмацненьне Амэрыкі бязь ніякага зразаньня бюджэту на абаронныя мэты.

Нарэшце — **і гэта, бадай, найважнейшы пункт для Беларуса-Амэрыканца** — праграма й пагляды Рэспубліканскае партыі ўлічваюць куды больш за дэмакратаў патрэбы, вагу й значаньне нацыянальных групаў Амэрыкі ды іхных палітычных асьпірацыяў. Рэспубліканская праграма, прынятая на рэспубліканскім зьезьдзе ў Канзас Сыты, кажа: „Задзіночаныя Штаты Амэрыкі й Савецкі Саюз застаюцца ідэалягічнымі спаборнікамі. Задзіночаныя Штаты ня ўхіляюцца ад гэтага спаборніцтва і будуць дамагацца ад Савецкага Саюзу ўжыцьцёўленьня прынятых ім забавязаньняў: як прыкладам, свабоды абмену інфармацыяй, свабоды эміграцыі ня толькі Жыдоў, але й іншых. Рэспубліканская партыя падтрымоўвае пашырэньне сувязяў з краямі Ўсходняе Эўропы". У праграме ёсьць таксама параграф, што кажа: „Нашае падтрымваньне народаў Цэнтральнае і Ўсходняе Эўропы ў дасягненьні імі самавызначэньня будзе працягвацца".

І вось, на мой пагляд, гэтыя пункты праграмы Рэспубліканскае партыі найбольш адпаведныя й спрыяльныя да супрацоўніцтва з рэспубліканскім урадам. Дзеля гэтых меркаваньняў мой голас — за рэспубліканцаў.

**Вітаўт Кіпель**

# ВІТАЕМ!

**Беларускае грамадзтва Кліўленду й ваколіцаў у нядзелю 24 кастрычніка сёлета пад кіраўніцтвам Яго Высокапраасьвяшчэнства Мітрапаліта БАПЦ Андрэя ўрачыста адзначае 25-ыя ўгодкі заснаваньня Парахвіі БАПЦарквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе. З гэтае нагоды вітаем нашых Суродзічаў у Кліўленьдзе з важнымі царкоўнымі ўгодкамі й шчыра жадаем далейшага росквіту Прыходу й яшчэ больш плённае ягонае дзейнасьці на славу Бога й на карысьць Беларускага народу!**

**Рэдакцыйная Калегія газэты „Беларус"**

**Нью Ёрк, 15 кастрычніка 1976**

# КОЛЬКІ ЗРУЙНАВАЛІ ПАЛЕСЬСЯ Й ЭГІПТУ?

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

межамі сваёй эсэсэрыі. Аказваецца, што Асуанская гаць, якую савецкія спэцыялістыя пабудавалі 15 год назад, прынесла Эгіпту не карысьць, а пагражае... катастрофай.

Справа зусім простая. Раней воды Нілу, разьліваючыся ў пойме, прыносілі з сабой ураджайны іл, які быў багаславенствам для сялян. Асуанская гаць стварыла аграмаднае возера Насэр, рака Ніл апынулася пад кантроляй і ў тым возеры Насэр асядае ўвесь ураджайны іл. Возера такім чынам мялее, вада хутчэй награваецца й выпароўвае. Не хапае вады, каб рухаць усе 15 вялікіх турбін. Самое апырсківаньне зямель з вадзёму ў засуху не дае чаканых прыбыткаў, бо, страціўшы іл, зьбяднеў грунт...

„Новое Русское Слово" за 28-га верасьня сёлета прысьвячае Асуанскай гаці й эгіпскай катастрофе цэлую перадавіцу. У заключэньні чытаем: „Эгіпскі ўрад, у страху перад шкодамі, што нарастаюць, бяз посьпехаў пытаўся ў савецкіх спэцыялістых — як выратаваць палажэньне. Адказу з Масквы даць не маглі".

„Прэзыдэнту Садату, напісаўшы поўнае кола, давялося вярнуцца на 15 год назад. Ён пачаў прасіць помачы ў амэрыканскіх інстытутах..."

Але-ж, Амэрыканцы мусяць выпраўляць памылкі ў Эгіпце.

А хто іх выправіць на Палесьсі?

**К. Акула**

# ГАЛАСАВАЦЬ БУДУ ЗГОДНА З СУМЛЕНЬНЕМ

Зьбліжаюцца прэзыдэнцкія выбары ў ЗША. Падзея гэтая моцна хвалюе й палітычных эмігрантаў з Усходняе Эўропы, якія ўважна сочаць за тым, ці і ў якім сэньсе выбарная кампанія закранае й пытаньне паняволеных народаў.

За час нашага 30-цігадовага прабываньня ў Амэрыцы, як амбасадараў нашае паняволенае бацькаўшчыны ў Вольным Сьвеце, мы ня мала прарабілі інфармацыйна-ўсьведамляльнае дзейнасьці: хто мы, дзе тэрыторыя нашае бацькаўшчыны, чым мы розьнімся ад Расейцаў і г. д. Мы стараліся адказваць на пытаньні зацікаўленых і наагул інфармаваць пра Беларусь пры кажнай нагодзе: на мастацкіх выстаўках, фэстывалях народных танцаў і песьні, пашыралі інфармацыйную літаратуру пра Беларусь, ейную нацыянальную апрычонасьць, эканамічныя рэсурсы, гісторыю. Мы зварачаліся да ўрадавых органаў і ў Кангрэс ЗША з просьбамі заняць становішча ў нашай нацыянальнай справе з нагоды адзначаньня ўгодкаў абвешчаньня дзяржаўнае незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны 25 сакавіка 1918 году, мы ладзілі даклады й дыскусіі на амэрыканскіх унівэрсытэтах на беларускія тэмы. І ўсё гэта для таго, каб пазнаёміць амэрыканскага слухача з народам і краем, імя якім Беларусы й Беларусь.

І мы з ходам часу прыдбалі шмат шчырых прыяцеляў, запраўдных прыхільнікаў нашае нацыянальна-вызвольнае ідэі. Мы пераканалі шмат якіх уплывовых Амэрыканцаў, што нашыя ідэі жывыя, нашыя мары-лятуценьні рэальныя, што народ наш не памрэ ў няволі, што яго не патрапіць зьнішчыць маскоўскі камунізм, калі ён выжыў і перажыў усе ліхалецьці расейскага царызму й польскае акупацыі. А галоўнае тое, што народ наш мае права жыць, бо, як сказана ў прадмове да Канстытуцыі ЗША, „усе людзі створаныя роўнымі", што свабода непадзельная для ўсіх народаў.

Здавалася нам, што й Прэзыдэнт ЗША Джэралд Форд і ягоны міністар замежных справаў Гэнры Кісынджэр гэта разумеюць і шчыра сымпатызуюць людзям, ад якіх чырвоная Масква адабрала свабоду. Бо-ж Прэзыдэнт ЗША штогод падпісвае Праклямацыю пра абвешчаньне Тыдня Паняволеных Народаў, у якой выказвае сваю сымпатыю й зразуменьне праблемы ды заклікае ўвесь народ волялюбнай Амэрыкі маліцца за вызваленьне Паняволеных Народаў.

Як-жа зьдзіўленымі, устрывожанымі й абуранымі былі многія слухачы апошняе дыскусіі ў тэлевізіі кандыдатаў на новага прэзыдэнта нашай супольнай Бацькаўшчыны Амэрыкі — сяньняшняга Прэзыдэнта Джэралда Форда й былага Губэрнатара Джорджыі Джымі Картэра, калі здарыўся бяспрэцэдэнтны ў нашыя часы факт. Прэзыдэнт ЗША асьветчыў, што няма савецкай дамінацыі ў Усходняй Эўропе й ня будзе яе ніколі падчас ягонага прэзыдэнцтва.

Дыскусія гэтая мела месца 6 кастрычніка, а ейнай тэмай была замежная палітыка ЗША. Калі на вышэй прыведзенае асьветчаньне Прэзыдэнта зьдзіўлены карэспандэнт-панэліст Макс Франкель, ня могучы паверыць пачутаму, яшчэ раз запытаў, ці-ж узапраўды Прэзыдэнт верыць, што Расейцы ня выкарыстоўваюць Усходняе Эўропы, як сфэры сваіх уплываў, акупуючы амаль усе ейныя краі, і ці-ж ня трымаюць там свайго войска, каб ня выпусьціць гэных краёў спад сваёй дамінацыі, Прэзыдэнт Форд адказаў: „Я ня веру, што Югаславія ўважае сябе пад дамінацыяй Савецкага Саюзу, я таксама ня думаю, што Румынія ўважае сябе пад савецкай дамінацыяй і што Польшча ўважае сябе пад гэтай дамінацыяй. Кажная з гэтых краінаў незалежная, цешыцца тэрытарыяльнай недатыкальнасьцяй („інтэгрыты"). Задзіночаныя Штаты Амэрыкі не ўважаюць, што гэтыя краі знаходзяцца пад дамінацыяй Савецкага Саюзу".

Не скарыстаў Прэзыдэнт з паўторанага журналістым пытаньня ды яшчэ мацней трымаўся свае першае заявы. А куды прасьцей было-б адразу прызнаць памылку й выбачыцца перад міліёнамі нешчасьлівых народаў, што пакутуюць у савецкай няволі. Ня здарылася гэтага! Палітыка ня лічыцца зь людзьмі.

Што хацеў гэтым дасягнуць Прэзыдэнт ЗША, мне ня ведама. Ці ён хацеў лішні раз запэўніць Савецкі Саюз аб сваёй цьвёрдай наважанасьці трымацца палітыкі дэтанту, ці можа ўважаў, што гэткае асьветчаньне спрычыніцца да ўмацаваньня палітыкі міру, ці, ахвяроўваючы долю паняволеных народаў на ласку й няласку Масквы, надзеіўся мець за гэта нейкую іншую рэкампэнсату? У выніку, аднак, не атрымаў абсалютна нічога, апрача бясспрэчнай страты ў сваёй выбарнай кампаніі.

І ўсё-ж нейкая справядлівасьць ёсьць на сьвеце. Старанна прамоўчваная, занядбоўваная й непапулярная ў урадавых колах справа паняволеных народаў выплыла раптам наверх якраз сваім трагізмам і, — што за гіронія лёсу! — сталася аднэй з найважнейшых тэмаў выбарнае кампаніі. Умела падхопленая апанэнтам Джымі Картэрам прыносіць яму нечаканую карысьць. На ўсіх тэлевізійных каналах і ў прэсе ЗША справа паняволеных народаў сталася казырнай картай у выбарнай ігры.

На чародную прэсавую канфэрэнцыю этнічных групаў, скліканую 7 кастрычніка кіраўніком Камітэту „Грамадзяне за Форда й Даля" Рычардам Розэнбаўмам, зьявіліся рэпартэры з тэлевізійнымі камэрамі амаль усіх тэлевізійных каналаў Нью Ёрку. Можна было бачыць на тэлевізіі, як абурана выказваліся прадстаўнікі паняволеных народаў. „— Гэта найсумнейшы для нас дзень пасьля здушэньня нашага вызвольнага паўстаньня", — дрыжачым голасам сьцьвярджаў вэтэран вугорскага паўстаньня 1956 году. А на вячэрняй праграме ў навінах была перададзеная прамова Рычарда Розэнбаўма, які прабаваў неяк вытлумачыць эвэнтуальную памылку Прэзыдэнта. Прадстаўніца газэты „Беларус" двойчы выказвалася на тэлевізійнай праграме, зазначаючы, што „гэткіх памылак Прэзыдэнт ЗША рабіць не павінен, што пазьнейшых тлумачэньняў і перапрасінаў ані не хапае, каб адрабіць зробленае".

А передвыбарная гарачка разгортаецца штораз інтэнсыўней. Будуць і далей сваркі і ўзаемныя закіды, будуць магчыма „памылкі" й выбачэньні за іх, можа той-сёй будзе гэта разумець і выбачаць. Але нам, паняволеным расейскім камунізмам народам, немагчыма ў ніякім выпадку пагадзіцца із занятым Прэзыдэнтам ЗША становішчам, бо гэта ахвяраваньне нас на далейшыя пакуты й нацыянальную сьмерць. Гэткую-ж канцэпцыю зьліцьця народаў Усходняе Эўропы ў вадну арганічную цэласьць з Расеяй афіцыйна прапанаваў прадстаўнік Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША ўраду Прэзыдэнта Форда Гэльмут Зонэнфэльд, які на канфэрэнцыі НАТО заявіў, што аднэй зь перадумоваў, каб запанаваў трывалы мір, ёсьць арганічнае зьліцьцё народаў Усходняй Эўропы. Дык гэта-ж ня што іншае, як цынічнае апраўданьне й абарона праступнага камуністычнага мерапрыёмства — тварэньня з усіх нерасейскіх народаў СССР гэтак званага „адзінага савецкага народу" на расейскай нацыянальнай базе, інакш кажучы, асуджэньне гэтых народаў на іхную нацыянальную сьмерць! Не зважаючы на асуджэньне дактрыны Гэльмута Зонэнфэльда Кангрэсавай Камісіяй, Прэзыдэнт і дасюль ня выказаў свайго адмоўнага становішча ў дачыненьні да гэнае дактрыны.

І гэта тады, калі нерасейскія народы СССР поўнасьцяй выявілі сябе, як найбольш верныя саюзьнікі Амэрыкі й цэлага Вольнага Сьвету. І іх, гэных 120 міліёнаў белых нявольнікаў савецкай турмы народаў найбольш баіцца камунізм!

Вяртаючыся да пытаньня выбараў, ня ведаю, як іншыя, але я, сьціплая беларуская жанчына, не пагаджаюся з дактрынай Гэльмута Зонэнфэльда, не пагаджаюся з выказваньнямі Прэзыдэнта Форда. У сёлетніх выбарах я павінна добра абмеркаваць, за каторага з кандыдатаў на прэзыдэнта аддаць свой голас ці можа й за нікога зь іх. Галасаваць буду згодна з сумленьнем.

**Зінаіда Станкевіч**

**быць рознай праблематыкі ў мастацтве розных народаў нашай краіны. Відавочна, што, стаўшы на такі шлях, стваральнікі фільмаў аб сучасным жыцьці пазбавяць іх тых дарагіх прыкмет, якія захаваліся і ў укладзе жыцьця, у традыцыях і псыхалёгіі савецкіх народаў, аб'яднаных у братняй сям'і".**

З цэлага мноства шэрых і няцікавых фільмаў Вацлаў Смаль вылучае фільм сёлетняга году рэжысэра В. Турава „Час яе сыноў", як выдатны твор пра надзённыя праблемы сучасьнасьці. Пасьля кароткага аналізу гэтага фільму аўтар артыкулу, аднак, прыходзіць да наступнае ня вельмі радаснае высновы: „**Фільм 'Час яе сыноў' — бязумоўная ўдача беларускіх кінематаграфістаў. Аднак нельга ўсё-ж забывацца, што на агульным фоне беларускіх карцін, створаных на матарыяле сучаснай рэчаіснасьці, гэта, пакуль адзінкавая ўдача**". А тымчасам за мінулыя 5 гадоў ад 3-цяга Зьезду кінаматаграфістых Беларусі, як падаюць аўтарытэтныя савецкія крыніцы, было створана каля 130 поўнамэтражных фільмаў, бальшыня якіх на тэмы сучаснае савецкае рэчаіснасьці. Дык вось якія незайздросныя дасягненьні беларускай фільмовай прадукцыі пра сучаснасьць!

Іншай важнай, цесна зьвязанай зь першай каштоўнасьцяй артыкулу Вацлава Смаля тое, што ён не намёкам адно, як шмат якія іншыя ўдзельнікі кінаматаграфічных дыскусіяў апошніх гадоў, а ўва ўсёй вайстрыні й шырыні паставіў даўным-даўно ведамае, але самымі апошнімі гадамі старанна прамоўчванае пытаньне нацыянальных кадраў беларускага кінамастацтва. І гэтае пытаньне дзеля ягонае асаблівае важнасьці праілюструем даўжэйшай цытатай з артыкулу Вацлава Смаля. Ён піша:

**„Вялікі вопыт разьвіцьця савецкай шматнацыянальнай кінаматаграфіі неракапаўча паказвае, што сапраўдныя посьпехі нараджаюцца там, дзе самую сур'ёзную ўвагу аддаюць нацыянальным кадрам. На жаль, беларускія пісьменьнікі й акторы тэатраў рэспублікі на кінастудыі „Беларусьфільм" пакуль яшчэ ня супрацоўнікі, а толькі выпадковыя госьці. Адсутнічаюць і мэтанакіраваная падрыхтоўка й выхаваньне творчай моладзі. Асабліва нездавальняючае становішча ў беларускім кіно са сцэнарыямі — асновай кінатвораў.**

**„На першы пагляд, адбываецца нявытлумачальная зьява: беларуская літаратура, якая мае шмат яркіх, значных твораў, што сталі зьявай савецкай шматнацыянальнай культуры, папулярных сярод міліёнаў чытачоў, ня можа забясьпечыць кінастудыю сцэнарыямі для чатырох-пяці фільмаў у год. Сцэнарны аддзел „Беларусьфільму" пакуль ня здолеў зацікавіць беларускіх пісьменьнікаў работай у кіно, ён ня стаў для іх тым творчым цэнтрам, куды прыходзяць зь цікавымі задумамі й прапановамі".**

Дзеля падмацаваньня гэтых сваіх справядлівых нараканьняў Вацлаў Смаль прыводзіць частку выказваньня Івана Мележа ў ягоным дакладзе на пленуме пісьменьнікаў Беларусі ў лютым 1972 году, а цяпер надрукаванага ў ягонай кнізе леташняга году „Жыцьцёвыя клопаты". Цалком на месцы гэтае выказваньне Івана Мележа прывесьці тут поўнасьцяй з увагі на высокі нацыянальны аўтарытэт нядаўна памерлага пісьменьніка, які чатыры гады таму адважна змагаўся супраць русыфікацыі беларускага кінамастацтва. Вось гэнае Мележава выказваньне:

**„Нам трэба біць трывогу аб тым, што робіцца ў кіно й тэлебачаньні ...На ўсім сьвеце гойсаюць рэжысэры нашай студыі ў пошуках тэмаў, па ўсёй краіне (г. зн. па ўсім Савецкім Саюзе — Ст. Ст.) шукаюць сцэнарыяў, і толькі кепска бачаць тое, што побач, чым жыве наш народ... Былі ўжо, былі ў нас і гарачая Афрыка, і гангстэры Амэрыкі, і крымскія пэйзажы, а вось пра народ наш, пра зямлю нашу, што сказана глыбокага, ад сэрца? Мароз бярэ за душу, калі чытаеш такое? Ёсьць фармальна фільмы і пра Беларусь, але колькі ў іх рамесьніцтва, „сачыніцельства", ды і месца дзеяньня — Беларусь — тут нярэдка проста прышпілена".**

Вацлаў Смаль у сваім артыкуле адно канстатуе й сьцьвярджае даўно практыкаваную зьяву, што пазбаўленьне беларускіх фільмаў нацыянальнага характару — адна з галоўных прычынаў нізкай мастацкай якасьці гэных фільмаў. Далей гэтага сьцьвярджэньня Вацлаў Смаль, аднак, ня йдзе й не адважваецца пашукаць і знайсьці, калі гэтак выразіцца, прапрычыну гэтае прычыны: чаму на студыі „Беларусьфільм" усяўладна пануе сьвядомая няўвага й грэблівыя дачыненьні да нацыянальных кампанэнтаў беларускіх фільмаў, а таксама чаму неахвотна прыцягваюцца да супрацоўніцтва беларускія пісьменьнікі, рэжысэры й акторы беларускіх тэатраў, чаму ў выніку гэтага беларускія фільмы адно паводля назову беларускія ды ў найлепшым выпадку месцам сваёй дзеі?

Выглядае, што ня перасталі быць актуальнымі й сяньня словы старшыні Дзяржаўнага камітэту пры Савеце міністраў БССР па кінаматаграфіі Б. Паўлёнка, сказаныя ім на 2-ім Зьезьдзе кінаматаграфістых Беларусі яшчэ ў 1967 годзе. У вадказ на патрабаваньні ўдзельнікаў гэтага Зьезду выкарыстоўваць у беларускіх фільмах у першую чаргу свае беларускія рэжысэрскія й акторскія сілы замеж артыстых, запрашаных з Масквы й Ленінграду, Б. Паўлёнак з вышыні свайго ўрадавага, а тым самым і партыйнага становішча афіцыйна й дэманстрацыйна заявіў: **„... пастаноўка пытаньня — рабіць беларускае кіно беларускімі рукамі — гэта ўжо ня вырашэньне праблемы нацыянальнага мастацтва, гэта, даруйце, нешта такое, што пахне нацыяналізмам".**

Гэтая прапрычына ўсіх прычынаў, дзеля якіх беларускае кінамастацтва, як і іншыя галіны мастацтва й культуры, штучна пазбаўляюцца беларускага нацыянальнага характару, вельмі ясныя. Беларускі фільм з моцна выяўленым нацыянальным характарам, хоць, паводля сталінскае формулы, сацыялістычны зьместам, але нацыянальны формаю, у тым ліку й беларускаю моваю, будзіў-бы й культываваў-бы ў гледачоў пачуцьцё нацыянальнае гордасьці й нацыянальнага патрыятызму. А гэта з увагі на штучнае тварэньне з усіх нацыянальнасьцяў Савецкага Саюзу адзінага г. зв. „савецкага народу" на базе расейскае гісторыі, культуры, мовы й расейскага патрыятызму, зьява моцна непажаданая й, як гэткая, не знаходзіць ухвалы й пахвалы з боку Камуністычнай партыі.

Вось чаму артыкул Вацлава Смаля важны й каштоўны ўжо тым, што ў ім удалося выразна паставіць пытаньне нацыянальнага характару беларускага кінамастацтва й удзелу нацыянальных кадраў у беларускай фільмовай прадукцыі.

**Ст. Станкевіч**

# "АД РОДНЫХ НІЎ, АД РОДНАЙ ХАТЫ..."

За вэрхалам пра інфляцыю, беспрацоўе, розныя эканамічныя нядужасьці ў тых краінах, дзе мы жывём, шматлікія з нас, пэўне-ж, ня чулі яшчэ пра БАМ. Але вось нейзабаве пачуем. Бо барабаншчына ўжо пачалася.

Вось што піша беларускі савецкі часапіс „Беларусь" (№ 11, лістапад, 1975 г.): „Вясной 1974 году з трыбуны 17-га зьезду ВЛКСМ на ўсю краіну прагучэла кароткае, гучнае слова — БАМ. Сяньня яно на вуснах у мілёнаў савецкіх людзей і сымбалізуе сабой вернасьць слаўным камсамольскім традыцыям, мужнасьць і працоўны гэраізм. Сёлета ў сваёй прамове Леанід Ільіч Брэжнеў сказаў: „Вялікім працоўным подзьвігам нашага народу стане будаўніцтва Байкала-Амурскай Магістралі. Ужо сяньня БАМ стаў запраўды ўсенароднай будоўляй. Зноў пацьвярджаецца добрая традыцыя савецкіх людзей — традыцыя Турксіба й Магніткі, Днепрагэса й Камсамольска — на — Амуры — разам брацца за агульную справу.

Адкрываючы доступ да багацейшых рэсурсаў гэтага краю, яго гіганцкіх прыродных кладовак, мы пачынаем гаспадарчае асваеньне ўсёй гэтай зоны. Пройдуць гады й на паўночным усходзе Сібіры, а таксама ў паўночных раёнах Далёкага Ўсходу будуць створаны новыя буйныя культурныя й прамысловыя цэнтры".

Брэжнеў забыўся згадаць, што Магнітку, Днепрагэс і цэлы сьцяг іншых магутных аб'ектаў савецкае індустрыі пабудавалі капітал замежных прадпрыёмстваў. Больш мэтазгодным было-б згадаць Петраград, які Пётр Першы пачаў будаваць на касьцях швэдзкіх палонных, а пасьля Беламор-Канал, Нарыльск, Караганду й суцэльны лябірынт ГУЛАГ-у, дзе дзясяткі мілёнаў зьняволеных асвойвалі вялікія зоны багацьцяў у недаступнай Поўначы.

Найбольшая каляніяльная імпэрыя, што сяньня сягнула ўжо ў Анголю й Самалі, на працягу стагодзьдзяў расла ў васноўным на трох слупох: кражы й прысвойваньні чужых індустрыяльных і іншых вынаходстваў, выкарыстоўваньні чужога капіталу й бяспрыкладнага зьдзеку над сваймі людзьмі, улучна да вынішчэньня дзясяткаў мілёнаў падчас розных штурмавых пяцігодак і гіганцкіх індустрыяльных праектаў.

Каб у вадпаведнай пэрспэктыве прыглядзіцца, што сяньня робіцца, у прыватнасьці на згаданым БАМе, варт згадаць як было ў мінулым. Гэтта памога нам вялікі расейскі паэта Някрасаў, што апісвае будову чыгункі:

„Видишь стоит, изможден
лихорадкою,
Высокорослый, больной белорус!
Губы бескровные, веки упавшие,
Язвы на тощих руках,
Вечно в воде, по колено стоявшие
Ноги опухли; колтун в волосах:
Ямою грудь, что на заступ
старательно
Изо дня в день налегала весь век...
Ты приглядись к нему, Ваня,
внимательно:
Трудно свой хлеб добывал
человек!
Не разогнул свою спину
горбатую
Он и теперь еще: тупо молчит
И механически ржавой лопатою
Мерзлую землю долбит!"

Прымітыў, у якім апыніўся някрасаўскі Беларус, адыйшоў у мінулае. Сяньня на будову БАМу — „трасы мужнасьці" ці „магістралі стагодзьдзя", як яе назвалі партыйныя прапагандовыя цівуны, — у Паўдзённую Якутыю едзе „гэраічная" моладзь з усёй эсэсэрыі, у тым ліку й найперш зь Беларусі.

І на помач „іржавым лапатам" прыйшлі бульдозэры й беларускія самазвалы МАЗы. А някрасаўскае начальства, пра якое паэта гаворыць:

„Грабили нас грамотеи-десятники,
Секло начальство, давила нужда",

замянілі бальшавіцкія цівуны, якіх называюць камсамольскімі шэфамі, палітрукамі, камісарамі. І ўсе яны, як ведама, зладзеі.

„Байкала-Амурскую магістраль завочна не пабудуеш. Трэба пракласьці 3145 кілямэтраў сталёвых рэек на ўсход, 450 кілямэтраў з паўдня на поўнач, а для гэтага перамясьціць 222 мільёны кубамэтраў грунту, узьвесьці 3136 штучных збудаваньняў, ... 142 масты, ... 4 тунэлі ... І ўсё гэта ва ўмовах вечнай мерзлаты й тайгі, зь яе гарамі, сопкамі, балотамі, бурнымі рэкамі ва ўмовах кароткага лета й доўгіх суровых — да 60 градусаў — сібірскіх марозаў..."

І навошта гэты цэлы БАМ? А вось нашто: „Ён адкрые доступ да скарбаў Паўднёвай Якуціі. Першая зь яе кладовак — Нюрэнгрынскае месцанараджэньне коксавага вугалю. Таўшчыня вугальнага пласту дасягае тут 70 мэтраў. Для параўнаньня нагадаем, што вугальныя пласты Данбасу маюць таўшчыню ад 0,45 да 2,5 мэтра. Самае-ж каштоўнае, што вугаль тут можна здабываць адкрытым спосабам. Недалёка знаходзяцца паклады залезных руд. Такое спалучэньне прыродных выкапняў у адным раёне прызнана унікальным, такога няма нідзе ў сьвеце".

Каляніяльная імпэрыя, заснаваная на нянавісьці чалавека да чалавека, нэгацыі індывідуальных правоў адзінкі, псіхушках, вынішчэньні хрысьціянскай веры й незаменных сьвятыняў, запусьціла ўжо свае шчупальцы на чорны кантынэнт. За войнамі й рэзьнямі ў Ветнаме, Камбоджы, Анголі, Мазамбіку павінна стаяць індустрыяльная магутнасьць. Аграмадныя мілёны даляраў каштуе Куба й яе ангольскія мэрцэнары. Трэба распальваць полымя войнаў і разьні ў лацінскай Амэрыцы, на Блізкім Усходзе...

Вось чаму рукамі маладых юнакоў Беларусі і „71 народнасьцяў СССР" узяліся за „трасу мужнасьці".

Паводля „Беларусі", у красавіку 1974 году на БАМ паехалі і „там паўдарнаму працуюць" 126 юнакоў і дзяўчат з усіх вобласьцяў рэспублікі". Летась лік іх перарос 600, а цяпер ужо, пэўне-ж, прываблалі тысячы. І гэта толькі ў вадным месцы.

„Беларусам выпаў гонар будаваць самы цяжкі, паўночны участак БАМа". Але-ж, гонар! „Упарта дзяўблі цьвёрдую, як камень, мерзлату, забівалі палі. А потым дзе-нідзе мерзлата сама падталася сонцу, дажджом і яе „разьвяло". Уручную давялося насіць па такой дарозе цяжкія сьценавыя шчыты".

„Літаратура й Мастацтва" за 7-га травеня сёлета аддае цэлую бачыну на хваласьпевы пра „працоўны гэраізм" беларускіх юнакоў і юначак. У дні „шэфства Беларусі над БАМам" выехала ў Залацінку, беларускі пасёлак у паўдзённай Якутыі, дэлегацыя ў складзе кампазытара Ігара Лучанка, паэты Генадзя Бураўкіна і менскіх артыстаў ды сьпевакоў. Намесьнік рэдактара газэты „Чырвоная зьмена" Анатоль Бутэвіч паведамляе нас пра „гэраічныя працоўныя подзьвігі" нашай высланай туды на працу моладзі: „За мінулы год калектыў ... выканаў будаўніча-мантажных работ на 7 мілёнаў 573 тысячы рублёў. Гэта 180 працэнтаў пляну. На 1976 год плян калектыву павялічаны ўдвая".

Значыцца аж на 360 працэнтаў пляну...

„Пачалося-ж усё з ... клюбу. Так, ледзь пасьпелі распачаць будаўніцтва, адразу ўзьвялі клюб. Праўда, палатачны, але гэта ня мела істотнага значэньня. Зрабіла гэты падарунак брыгада сталяроў Васіля Жураўскага ў нерабочы час".

Клюбы й „палацы культуры" народ наш называе дома „брахалкамі". І вось, — паверыце, людцы добрыя, — юнакі ў чужой, непраходнай тайзе, пакуль падумаць, дзе самім прыхіліцца, будуюць „брахалку", каб мелі дзе натхняць іх да „працоўна-гэраічных подзьвігаў" партыйныя цівуны-брахуны!

„Сяньня ў Залацінцы жыве каля 600 чалавек. Ёсьць у пасёлку свая лазьня, хлебапякарня, сталовая..." Во, во! Увіце сабе на 600 чалавек цэлую вялікую лазьню! А як-жа бяз лазьні! Там, пэўне-ж, хвастаньне, параньне й мыцьцё ўдарнымі тэмпамі, без натхненьня партыйных брахуноў ідзе!

Ні „Маладосьць", ні „ЛіМ" нідзе ня згадваюць пра „зарплату" „першапраходцаў". Ніводнаму зь іх, відаць, і ня сьніцца, каб зьезьдзіць на водпуск дадому. Непасільна працуючы ў сібірскай тайзе, „супэрмэны", юнакі й юначкі беларускія, задаволеныя, відаць, прапагандовай стравай у сваіх „брахалках". Дый, пэўне-ж, узнагародамі сыплюцца на юнацкія галовы партыйныя граматы й мэдалі.

А дома народ мяркуе, чаму моладзь ня трымаецца калгаснага прыгону, чаму адсейваецца ў гарад. А там-жа, ведама, лягчэй завэрбаваць яе на розныя бамы, магістралі веку, трасы мужнасьці. Каб на поце й мазалёх цьвету народу нашага расла й магутнела найбольшая каляніяльная імпэрыя...

„Няма сумлеву, — піша Бутэвіч, — што ўбачанае й пачутае дасьць магчымасьць напісаць новыя творы аб нашай цудоўнай моладзі, ляжа ў аснову новых вершаў і песень".

Але-ж, паэты й пісьменьнікі сувэрэннай бэсэсэрыі, бярыцеся сьпяваць пра нашых юнакоў і юначак, бамаўскіх „першапраходцаў". Пячыце партыйныя аладкі!

Бязумоўна, можна пачаць і гэтак, паводля нашага слаўнага Багдановіча:

Ад родных ніў, ад родных хат,
Іх забралі ў маскалі,
Каб тучней „старэйшы брат"
За іхны пот і мазалі...

К. Акула

# РОЗДУМ ПРА „РОЗДУМ"

У часапісе „Запісы" (№ 13 за 1975 г.) зьявіўся невялікі артыкул Дзімітрыя Верасава „Роздум пра музыку". Амаль палову гэтага артыкулу займае тэаратычная выкладка пра аснову беларускага музычнага фальклёру, пра натуральныя, грэцкія дытанічныя лады, музыку „авангарду", „атанальную" музыку ды інш. Пра гэтую частку артыкулу нічога ня скажаш, напісана яна чалавекам, які ведае, пра што піша. Праўда, не абышлося і без агульна-ведамых сэнтэнцыяў, накшталт: „Народная музыка ня можа захавацца, калі яна не застанецца да некаторай ступені кансэрватыўнай".

У другой частцы, сказаць, фактычнай, Д. Верасаў крытыкуе зборнік песьняў кампазытаркі Эльзы Зубковіч „Край мой васільковы" ды „праяжджаецца" па сваіх, калі можна так сказаць, аднасяльчанах, „сяброх" па музыцы, „вылучэнцах" і „самавылучэнцах". Хто гэтыя „праступнікі", гутарка пойдзе ніжэй.

Пахваліўшы Алеся Карповіча за тое, што ён у сваім уводным артыкуле да зборніка Э. Зубковіч згадаў імя Вольфа, якога звычайна „не заўважаюць", паківаўшы на яго пальцам за замоўчваньне імя Мусоргскага, не згадзіўшыся зь яго цьверджаньнем, што ў песьнях Зубковіч ёсьць матывы, блізкія да беларускай народнай песьні, Д. Верасаў бярэцца разглядаць песьні вышэй згаданага зборніка. Дзімітры Верасаў быў калісь настаўнікам, а таму, бадай, старым звычаем ён і кампазытарку Эльзу Зубковіч палічыў сваёй вучаніцай... Бязь сьмеху, адзнакі ён ставіць панастаўніцку: „добра", „слаба" і г. д.

З усяго зборніка заслужылі на пахвалу толькі дзьве песьні: „Дарога" і „Вясновы вечар". Рэшта ўсё — пасярэдныя й слабыя рэчы, кажа крытык, бо-ж адна зь іх падобная на расейскую „Ох, ты, доля, мая доля", другая з налётам нямецкіх песьняў паваеннага часу, трэцяя напісана ў духу Чайкоўскага, чацьвертая — з адценьнем раньняга „вагнэрызму", пятая... А пятай і шостай, „Калыханцы" і „Я душу нявырайна параню", зусім не пашанцавала.

„Пад „Калыханку" дзіцё не засьне, — кажа Верасаў, — а песьня „Я душу нявырайна параню" — слабая рэч і музыкай і тэкстам: яна нагадвае банальныя мяшчанскія рамансы. Кампазытарскага натхненьня ня вычуваецца".

Ня супярэчу, можа, дзіцё пад „Калыханку" і не засьне, тым болей, што сучасныя дзеці хутчэй засынаюць пад какафонію „авангардызму", але мне штосьці ня верыцца, што Э. Зубковіч такая слабенькая „вучаніца", каб ня ведаць, што мяшчанства і патрыятызм — вельмі далёкія суседзі. Судзіць пра „банальнасьць" гэтае песьні не бяруся, але пра „слабасьць" тэксту буду спрачацца. Тут Д. Верасаў праявіў у дачыненьні да Кавыля, як кажуць дыпляматы, нядружалюбны акт. Вось-жа, мне здаецца, кампазытарка Э. Зубковіч ня горш за Д. Верасава разьбіраецца ў тэкстах, калі яна парашыла напісаць музыку на верш „Я душу нявырайна параню". У гэтым вершы выказана пачуцьцё любасьці да роднай беларускай зямлі, у прыватнасьці, да прыгажосьці яе прыроды, якая хаця і ня родная для Э. Зубковіч, але блізкая й знаёмая. Ніякага фальшу тут няма, а ёсьць галоўная якасьць кампазытара, пра якую піша Верасаў, — пачуцьцё шчырасьці ў дачыненьні да сябе й да іншых. Ня ў прыклад іншым, кампазытарка Зубковіч не баіцца патрыятычных тэкстаў, ба ведае, мабыць, што вершы і песьні аб родным краі ўпрыгожваюць творчасьць кожнага паэты й кампазытара. Асабы, пазбаўленыя любасьці да Радзімы, для якіх патрыятызм уяўляецца нейкім пудзілам на агародзе, зьяўляюцца няпоўнавартаснымі, хворымі людзьмі.

Патрыятызм — зьява Боская, бо-ж гэта любасьць, а ня ненавісьць. А вось, што гэта за „падхалімны ілжэ-патрыятызм" і каму яго стасуе паважаны крытык, ня мог я адгадаць. Хіба-ж ня Эльзе Зубковіч? А, можа, тым „вылучэнцам" і „самавылучэнцам", пра якіх ён піша і такое: „Іншыя-ж, зь некаторымі здольнасьцямі, ня маюць нат элемэнтарных ведаў". Тут таксама верасаўскі „рэбус". Пра каго ідзе рэч, гадаць ня трэба, але якія-ж яны „вылучэнцы" ці „самавылучэнцы"? Скажам, мяне, ці кампазытара Верасава вылучылі на атрыманьне літаратурнай, ці музычнай прэміі. Мы тады можам лічыцца „вылучэнцамі". Або, скажам, Сталін вылучыў сам сябе ў маршалы. Сталін — самавылучэнец. А хто куды вылучаў і самавылучыўся з тых, пра каго думае і піша Верасаў? І тым болей, ніякія яны не „падхалімы ілжэпатрыятызму", а сапраўдныя беларускія патрыёты, якія із зброяй у руках змагаліся за Беларусь, а цяпер змагаюцца талентам, які ім Бог паслаў. Ня ўсе мелі магчымасьць вучыцца ў кансэрваторыях, давялося некаторым папаўняць свае веды самаадукацыяй так, як гэта рабіў вельмі паважаны Верасавам Мусоргскі.

Ды й сам кампазытар Д. Верасаў, як ведома, ніякіх кансэрваторыяў не пачынаў і не канчаў, а вучыўся тэорыі й кампазыцыі ў А. Лявонава, І. Заслаўскага і В. Кугутоўскага. Дык нашто-ж насьміхацца з „невуцтва" другіх? Нашто зайздросьціць, што гэтых „невукаў" паважаюць „некаторыя вядучыя дзеячы"? Паважалі іх за іх грамадзкую бескарысьлівую беларускую нацыянальную працу. Кажу „паважалі", бо зараз гэтых „праступнікаў" ня вельмі паважаюць, а вось Д. Верасаў трапіў ажно ў біяграфічны даведнік „Выдатныя Амэрыканцы двухсотгадовай эры". Праўда, паважаюць Д. Верасава пераважна царкоўныя дзеячы. Што да грамадзкіх, дык яны маюць падставы ня вельмі паважаць, бо...

Няхай пакуль што гэтае „бо" застанецца без расшыфроўкі. Будучыня пакажа, ці варта яго расшыфроўваць, ці не.

Наагул трэба з сумам канстатаваць, што Д. Верасаў свой артыкул пісаў праз антыпатрыятычныя „акуляры". Вытрыманы ён у „скрыпічным ключы".

У дачыненьні да кампазытаркі Эльзы Зубковіч крытык пачаў, як кажуць, „за ўпакой", а закончыў „за здравіе", ці-ж бо: „І затым ейная музыка будзе жыць". І я так думаю.

Язэп Лешчанка

# СХОД БЕЛАРУСКАГА КЛЮБУ У МАНЧЭСТАРЫ

15 жніўня сёлета адбыўся Агульны Сход сяброў Беларускага Клюбу ў Манчэстары, які адчыніў старшыня Управы Клюбу К. Шыбіцкі. Справаздачу зь дзейнасьці Клюбу зрабіў сакратар ягонай Управы М. Яськевіч. У справаздачы згадвалася, што Клюб выпісвае з Амэрыкі газэту „Беларус", часапіс „Беларуская Моладзь" і часапіс „Голас Царквы". Зь менскіх часапісаў і газэтаў Клюб выпісвае „Полымя", „Літаратуру і Мастацтва", „Работніцу і Сялянку" й „Беларусь".

Дзякуючы добрай прадаўчыні спні Кляры Кажаневіч, у Клюбе пануе належны парадак і чысьціня. Скарбнік Клюбу Хведар Кажаневіч зрабіў абшырную справаздачу з грашовага абароту Клюбу, які даходзіў да 15-ці тысячаў ангельскіх фунтаў. Найбольшы даход давалі напіткі, а найменшы — цыгарэты. Прадбачваецца, што грашовы абарот павысіцца да 20-ці тысячаў фунтаў, бо ўстаноўлены білярдны стол, які прыцягвае ў Клюб большую колькасьць гасьцей. Сп. Хв. Кажаневіч зазначыў, што ў сучасны мамэнт касе Клюбу знаходзіцца каля 1.000 фунтаў, якія патрэбныя дзеля аднаўленьня Беларускага Дому.

На прапанову сп. П. Шыркоўскага ўступаючай Управе быў прызнаны абсалюторыюм з падзякаю. Пасьля кароткай дыскусіі паступіла прапанова а. Пратаярэя Янкі Абабуркі, каб зацьвердзіць старую Ўправу Клюбу на наступную кадэнцыю. Сход аднагалосна з гэтай прапановай згадзіўся. Цяперашняя Ўправа Клюбу гэткая: сп. К. Шыбіцкі — старшыня, сп. М. Яськевіч — сакратар, сп. Хв. Кажаневіч — скарбнік.

Сход закончыўся сьціплым пачастункам. Было ўзгодненае супрацоўніцтва з адміністратарам Беларускага Дому сп. Ул. Гінько, а таксама прапанова апошняга, каб належна аднавіць Беларускі Дом.

М. Стаўпіскі





# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (верасень 1976) наступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**I. ЗША:**

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Пр. Бартуль | $ 70.00 |
| 2. Д. Сямёнаў | 30.00 |
| 3. Д-р Я. Сажыч | 25.00 |
| 4. В. Р. | 20.00 |
| 5. Я. Чарнэцкі | 20.00 |
| 6. В. і М. М. | 20.00 |
| 7. М. Прускі | 15.00 |
| 8. М. Чупрыкаў | 10.00 |
| 9. К. Вініцкая | 10.00 |
| 10. Ю. Найдзюк | 10.00 |
| 11. Л. Акіншэвіч | 10.00 |
| 12. Ул. Р. | 10.00 |
| 13. Ул. Курыла | 10.00 |
| 14. Інж. Я. Бруцкі | 10.00 |
| 15. М. Грэбень | 10.00 |
| 16. Ч. Найдзюк | 5.00 |
| 17. Я. Азарка | 5.00 |
| 18. П. Кузьменка | 5.00 |
| 19. Э. Мірантц | 5.00 |
| **Разам:** | **$300.00** |

**II. КАНАДА:**

1. Д-р Р. Жук-Грышкевіч за клішы ... **$ 30.00**

**III. АЎСТРАЛІЯ:**

1. Д-р Я. Малецкі ... **$ 100.00**

**IV. НЯМЕЧЧЫНА:**

1. Р. Казак ... **$ 20.00**

**Усяго разам: $ 450.00**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**